№№101–102
(3640–3641)

29 чэрвеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Сустрэнемся 6 ліпеня

**Шаноўныя чытачы!**

**На жаль, наступны выхад “Народнай Волі” запланаваны на 6 ліпеня. Гэта звязана не з жаданнем рэдакцыі наладзіць сабе “канікулы”, а са святам і пераносам выхаднога дня з суботы на панядзелак. Вядома ж, мяняецца распарадак работы пошты, друкарні, транспартнай экспедыцыі, што не дазваляе рэдакцыі прапанаваць Вам чарговы нумар газеты ў аўторак.**

**Таму сустрэнемся толькі 6 ліпеня.**

**Рэдакцыя.**

РЭБУС

# Загадкавы рэйс

*Прылёт Аляксандра Лукашэнкі з першым візітам у Эквадор нечакана ператварыўся ў загадку.*

Беларускія тэлеканалы зусім не паказалі кадры, як кіраўнік нашай дзяржавы спускаецца па трапе самалёта. Але на здымках лацінаамерыканскіх інфармацыйных агенцтваў добра бачна, што ён выходзіць не са свайго самалёта.

Параўнайце здымкі. На беларускім борце нумар 1 якраз па ілюмінатарах ідзе чырвоная паласа. З гэтага самалёта Аляксандр Лукашэнка выходзіў і на Кубе, і ў Венесуэле. А вось на здымку з аэрапорта Mariscal Sucre мы ўжо бачым зусім іншы самалёт, па якім ідуць палосы ў колерах дзяржаўнага сцяга Венесуэлы.

Што здарылася? Чаму адбылася замена рэйса?

З авіякампаніі “Белавія” ў пошуках адказу на гэтыя пытанні “Народную Волю” накіравалі ў Дэпартамент па авіяцыі Міністэрства транспарту.

У Дэпартаменце па авіяцыі патлумачыць, чаму ў Эквадор Аляксандр Лукашэнка прыляцеў не на сваім самалёце, таксама не здолелі, паведаміўшы, што адказ трэба шукаць “па лініі Міністэрства замежных спраў”.

Прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных параіў нам тэлефанаваць у Эквадор і запытвацца там. Але куды трэба тэлефанаваць, падказаць не здолеў.

*“Мы не маем беларускага пасольства ў Эквадоры, таму няма куды тэлефанаваць, каб даведацца. Магчыма, пасля вяртання дэлегацыі з Лацінскай Амерыкі нешта высветліцца”,* — адказаў прадстаўнік беларускага МЗС.






З-ЗА КРАТАЎ

## Статкевіч зноў у ШІЗА, а значыць, змены рэжыму не дачакаецца

*Жонка палітыка Марына Адамовіч распавяла “Народнай Волі” аб тым, чаго баіцца ў сувязі з чарговым змяшчэннем мужа ў ізалятар.*

Што адбылося ў Магілёўскай турме, дакладна не ведае ніхто з блізкіх Мікалая Статкевіча. Ёсць даныя, што экс-кандыдат быў асуджаны на 10 сутак карцара пасля правакацыі, якая была здзейснена супраць яго на мінулым тыдні. Тады яго жонка паведаміла, што ў камеру да Статкевіча збіраліся перавесці чалавека з ВІЧ.

*“Мне падаецца, што гэта працяг той правакацыі, якая распачалася ўжо даўно,* — заўважыла спадарыня Адамовіч. — *З-за гэтых затрыманняў ужо не ідзе размова аб пераводзе на агульны рэжым, на які ён бы меў права з 12 ліпеня. Апошнім часам з’явілася іншая інфармацыя. Нібыта з-за такой колькасці парушэнняў рэжыму да Мікалая будзе ўжыты артыкул 411 Крымінальнага кодэкса — падаўжэнне тэрміну пакарання”.*

Марына Адамовіч адзначыла, што ўжо не бачыць сэнсу ў тым, каб тэлефанаваць у турму і высвятляць у адміністрацыі акалічнасці справы. Маўляў, усё роўна атрымае адзін і той жа фармальны адказ: “у сувязі з асобай асуджанага”...

*“Я пішу ў турму афіцыйныя скаргі, каб у мяне на руках былі пісьмовыя адказы адміністрацыі”,* — прызналася жонка палітыка.

### АФІЦЫЙНА

## Ніякіх пытанняў

У турме №4 Магілёва “Народнай Волі” паведамілі, што адказаць на пытанні, якія тычацца зняволенага Статкевіча, можа толькі начальнік турмы. Праўда, датэлефанавацца да **Аляксандра Ламазы** адразу не атрымалася. Калі трубку ўсё ж такі падняў начальнік турмы, размова была нядоўгай. Спадар Ламаза адмовіўся каментаваць сітуацыю, сказаўшы толькі: *“Ні на якія пытанні па тэлефоне я не адказваю”.*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Журналіст — як костка ў горле

Справа карэспандэнта польскай “Газеты Выборчай” Андрэя Пачобута не сціхае. У Гродне прайшлі вобыскі ў офісе незарэгістраванага Саюза палякаў, адным з кіраўнікоў якога з’яўляецца журналіст, падчас якіх канфіскавана камп’ютарная тэхніка. Тым не менш фармальнай прычынай затрымання журналіста па-ранейшаму застаюцца публікацыі на сайтах “Беларускі партызан” і “Хартыя’97”. Хаця шмат разоў перачытаўшы апошнія артыкулы Пачобута, мы, яго калегі, так і не знайшлі, да чаго можна было прычапіцца, дзе ў іх можа быць паклёп.

У тым, што не ў публікацыях справа, упэўнены і рэдактары папулярных сайтаў.

Рэдактар партала “Беларускі партызан” **Павел Шарамет** гаворыць:

— *Я абсалютна перакананы, што абвінавачванні ў паклёпе за публікацыю на “Партызане” — гэта толькі падстава. Насамрэч, на мой погляд, арышт звязаны з істотнымі палітычнымі прычынамі. Па-першае, Пачобут фактычна з’яўляецца кіраўніком Саюза палякаў. Там ёсць фармальныя кіраўнікі, але ў сілу таго, што Андрэй чалавек вельмі энергічны і аўтарытэтны, то фактычна ён і з’яўляецца адной з галоўных фігур у арганізацыі.*

*Па-другое, у Гродне вельмі “своеасаблівы” КДБ. Яго супрацоўнікі ўвесь час кагосьці хапаюць, заводзяць справы на журналістаў і ніяк не супакояцца.*

*Па-трэцяе, калі гаварыць пра публікацыі, то тэксты Андрэя ў “Газеце Выборчай” былі асабліва непрыемнымі для беларускіх улад. Яны, відаць, думаюць, што яго публікацыі сталі прычынай напружаных стасункаў з Польшчай.*

*Чацвёрты момант, які я б выдзеліў, псіхалагічны. Гэта падобна ўжо на нейкую нянавісць да Польшчы. Напэўна, беларускія ўлады думаюць, што менавіта афіцыйная Варшава з’яўляецца “застрэльшчыкам” халодных адносін паміж Беларуссю і Еўропай.*

*А пяты момант — КДБ працуе выбарачна, кропкава, выбіраючы найбольш яркіх актывістаў, каб іх нейтралізаваць ці зламаць. Выбіраюць самых актыўных і аўтарытэтных. Так што прычын цэлы комплекс.*

*Я прааналізаваў публікацыі Пачобута і нічога такога не знайшоў. Больш за тое, ён быў пад крымінальнай справай і наўмысна пісаў вельмі акуратна.*

Рэдактар сайта “Хартыя’97” **Наталля Радзіна** наконт арышту Андрэя Пачобута мае наступнае меркаванне:

— *Я бы выдзеліла ва ўсёй гэтай гісторыі два асноўныя моманты. З аднаго боку, улады хочуць такім чынам аказаць ціск на Саюз палякаў і пашантажыраваць Польшчу. Справа ў тым, што Польшча займае сёння даволі прынцыповую пазіцыю ў пытанні санкцый. І я б сказала, што Пачобута ўзялі ў закладнікі. Верагодна, Мінск хоча пагандляваць ім і прымусіць Варшаву адмовіцца ад сваёй пазіцыі.*

*Апроч таго, гэтую справу можна разглядаць як спробу запалохаць журналістаў: каб не супрацоўнічалі з сайтамі “Хартыя’97” і “Беларускі партызан”. Андрэй Пачобут, дарэчы, адным з першых журналістаў напісаў пра магчымы расстрэл Канавалава і Кавалёва. Ён папросту прааналізаваў сітуацыю і прыйшоў да такой высновы. А потым гэтая інфармацыя пацвердзілася. І мела вялікі рэзананс у грамадстве.*

Нагадаем: гэта не першая крымінальная справа супраць журналіста. 8 сакавіка 2011 Гродзенская абласная пракуратура распачала супраць Андрэя Пачобута справу за абразу прэзідэнта Беларусі (частка 1 артыкула 368 Крымінальнага кодэкса РБ). Ад 6 красавіка два месяцы яго трымалі за кратамі. За той час супраць яго распачалі яшчэ адну справу — за паклёп на Аляксандра Лукашэнку. Летась 5 мая Гродзенскі суд пакараў Андрэя Пачобута двума гадамі зняволення з адтэрміноўкай выканання пакарання на тры гады. Хаця ў выніку абвінавачанне ў абразе прэзідэнта — тое, за што і арыштоўвалі нашага калегу, — было знята. Затое застаўся паклёп. Зараз Андрэя спрабуюць асудзіць другі раз. І яму пагражае да пяці гадоў зняволення.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПРАМАЯ ЛІНІЯ

## «Ля апарата — галоўны рэдактар...»



***Сёння, 29 чэрвеня, з 15 да 17 гадзін*** *на “Прамой лініі” будзе заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты “Народная Воля”* ***Іосіф СЯРЭДЗІЧ.***

*Падчас дыялогу з чытачамі ён гатовы абмяркоўваць самыя розныя тэмы — ад пытанняў асабістага характару да дзяржаўных.*

*Адным словам, заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар “Народнай Волі” ў чарговы раз выклікае агонь на сябе. Тэлефон —* ***328-68-41****. Калі па нейкіх прычынах Вы не зможаце ў вызначаны час звязацца па тэлефоне, напішыце ліст у рэдакцыю з пазнакай* ***“Дыялог з галоўным рэдактарам”.*** *Можна накіраваць пытанні і па электроннай пошце* ***nv@promedia.by****.*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



### Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук

# Возвращение в 2010-й?

Александром Лукашенко в очередной раз поставлена задача правительству повысить тарифную ставку первого разряда. Она должна подняться с 1 августа, второй раз — в октябре. Думается, этот наказ будет исполнен. Как и будет взят во второй раз заветный рубеж — 500-долларовая зарплата в эквиваленте к концу года (а может быть, и раньше).

Спросите: за счет чего это будет достигаться? Прежде всего за счет задействования административного ресурса. Повысить зарплату бюджетникам достаточно просто: путем очередного повышения ставки первого разряда. А их у нас — треть занятых. Госпредприятия повысят зарплату за счет уменьшения прибыли, фондов накопления и ухудшения других финансовых показателей. Частные у нас погоды не делают, но также в долгу не останутся. Чтобы помочь им всем в этом деле, Нацбанк и дальше намерен снижать ставку рефинансирования, удешевляя кредиты и белорусский рубль. Наконец, разогреют печатный станок, который всегда служил палочкой-выручалочкой, тем более в предвыборной ситуации.

Вспомните, все эти нехитрые действия обкатывались властями в позапрошлом году. Тогда были выборы президента, сейчас — выборы в парламент.

Печатный станок, собственно, уже набирает обороты. Объем рублевой денежной массы на 1.06.2012 г. достиг невиданных ранее 52,4 трлн рублей, в том числе объем наличных денег составил 8,3 триллиона. Денежная масса растет не в пример ВВП. Заявления властей о том, что рост зарплаты должен быть обеспечен соответствующим ростом производительности труда, никто серьезно не воспринимает. На прежней материально-технической базе нашей экономики этого не достичь. К примеру, объем инвестиций в основной капитал в Беларуси, по данным Белстата, в январе—мае снизился на 21% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года. Затраты на приобретение машин и оборудования — на 28,5%. Масштабных прямых иностранных инвестиций как не было, так и нет. В решении поставленных задач белорусские власти по-прежнему уповают на российские преференции. И еще, наверное, на фарт. По их оценке, льготные цены на российские нефть и газ сохранят нам за год 5,2—5,4 млрд долларов. Рассчитывают, что не один миллиард долларов нам может дать белорусское ноу-хау — выпуск растворителей-разбавителей, который с Нового года странным образом возрос в разы. В отличие от других нефтепродуктов эти товарные позиции не облагаются пошлиной, которая должна поступать в российский бюджет. Однако российские специалисты уже начали заниматься этой, мягко говоря, белорусской аферой.

Рост рублевой массы подпитывает инфляцию. Цены на продовольствие в мае текущего года по отношению к декабрю прошлого выросли на 9,7%. В мае по сравнению с апрелем цены на говядину бескостную увеличились на 7,8%, на хлеб и хлебобулочные изделия — на 7%, масло животное — на 6,3%, колбасные изделия и копчености — на 4,8%. В то же время на складах предприятий скопилось 243% среднемесячного объема произведенной продукции. Только за апрель складские запасы увеличились на 700 млрд рублей, достигнув в итоге 20,3 трлн рублей. В общем, все, как всегда, все, как и ранее: очередное повышение зарплаты — очередное повышение цен. За исключением важной особенности. Если принимать во внимание ситуацию прошлого года, то до последнего времени валютные курсы белорусского рубля были относительно стабильны. Но, начиная с конца мая, начался устойчивый рост курса доллара.

Характерная сводка с биржевых торгов: 26 июня белорусский рубль сдал свои позиции по отношению к основным иностранным валютам, курс на которые устанавливался днем ранее. Курс доллара увеличился на 70 рублей, до 8360 рублей. Заявки на продажу составили 48,7 млн долларов, на покупку — 59,1 миллиона. Евро увеличился на 120 рублей, до 10.470 белорусских. Заявки на продажу были 36,7 млн евро, на покупку — 47,8 миллиона. Чистая продажа валюты на наличном и безналичном рынках сменилась чистой покупкой. Вкладчики все больше отдают предпочтение валютным вкладам. Их доля — свыше 68% всех банковских сбережений. Вновь последовало очередное напоминание российского посла о переходе на единую валюту (читай, российский рубль) как о единственном средстве спасения белорусской экономики (читай, через поглощение ее российской).

Не следует недооценивать еще один важный и тревожный симптом — устойчивое снижение мировых цен на нефть. Напомним, что в канун мирового финансово-экономического кризиса в 2008 году цены на нефть за полгода упали со 145 долларов до 35 долларов за баррель. И в настоящее время отмечается отрицательная динамика нефтяных котировок: цены на все ее виды сползли ниже 100 долларов, до 90—80 “зеленых”. Равно как в таких случаях по известной закономерности набирает силу доллар. Критическая цена нефти для российского бюджета, как определяют ее сами россияне, как раз 80 долларов. За ней в российской экономике, всецело зависящей от объема продаж энергоресурсов, начнутся сложности. Следовательно, российский энергетический грант Беларуси может сойти на нет. По сообщениям СМИ, курс на снижение цен на нефть взял первый ее мировой добытчик Саудовская Аравия. Саудовцы увеличили добычу нефти. Якобы в их планах сбить цену на нефть до 60 долларов за баррель, чтобы подорвать экономику Ирана и его союзников. Если это так, то не поздоровится и экономикам России и Беларуси. Валютные реки могут легко превратиться в ручейки. О грядущей второй волне мирового финансового кризиса неоднократно предупреждал бывший министр финансов России А.Кудрин.

Впереди у Беларуси не только выборы в парламент, но и пик платежей по внешним долгам, который приходится на 2013—2014 годы. Министр финансов считает, что нам не уйти от новых заимствований на европейском рынке ценных бумаг, придется рефинансировать и старые долги. Не исключено, что при снижении валютных поступлений, если не пофартит с торговым балансом, возникнет необходимость распечатывать и валютные резервы страны.

Анализируя экономическую политику властей, невольно задумываешься над тем, чем же она отличается от предвыборной экономической политики 2010 года. И видишь все меньше различий и все больше сходства. Нет серьезных подвижек в реформировании экономики, модернизации ее технической и технологической базы. Она может выживать только при дешевых российских энергоносителях. Отсутствует диверсификация экспорта. Он по-прежнему зависим от мировых цен на нефть. Нам представляется, что это видят правительство и Нацбанк, которые должны извлечь уроки как из прошлогоднего валютного кризиса, так и из мирового финансового кризиса, который не минул нас в 2009 году и просто перешел в вяло текущую стадию. Если они этого не сделают, виноват будет тот, кто за все расплачивается, — белорусский народ...

ВЫБАРЫ

## Вы будзеце слухаць кандыдатаў?

*Кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў пятага склікання адвядуць для выступленняў па дзяржаўным тэлебачанні і радыё самы рэйтынгавы эфірны час з 17.00 да 20.00, калі праграмы збіраюць найбольшую аўдыторыю.*

Аб гэтым БЕЛТА паведаміў сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў **Мікалай Лазавік.**

Парадак выкарыстання друкаваных СМІ падчас выбарчай кампаніі істотных змен не зведаў. У палажэнні будзе прапісана, у якіх газетах кандыдаты ў дэпутаты атрымаюць права публікаваць перадвыбарныя праграмы, аб’ёмы перадвыбарных праграм, тэрміны, у якія іх трэба падаць у рэдакцыі, і некаторыя іншыя пытанні. Навацыі закрануць радыё і тэлебачанне ў сувязі з тым, што ў кандыдатаў з’явілася магчымасць удзельнічаць у дэбатах, адзначыў сакратар Цэнтрвыбаркама.

ЖАХ!

## Хлопец падпаліў свайго бацьку

*Юнак пасварыўся з бацькам, абліў яго ацэтонам і падпаліў.*

Гэтая страшэнная гісторыя адбылася ў панядзелак 25 чэрвеня. Дакладныя абставіны здарэння невядомыя. Па папярэдняй інфармацыі, падчас сваркі мінчанін абліў свайго бацьку ацэтонам і падпаліў. 47-гадовы мужчына зараз знаходзіцца ў бальніцы з апёкамі першай-чацвёртай ступеняў 38% цела. Яго стан ацэньваецца як стабільна цяжкі.

Зараз 24-гадовы малады чалавек, які здзейсніў жудасны ўчынак, змешчаны ў ізалятар.

**Марыя БУДНІК.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 29 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.

ДИПЛОМАТИЧЕСКИЙ КЛУБ

*Розмари ТОМАС,*
*Чрезвычайный и Полномочный Посол Великобритании в Беларуси:*

# «Почему Беларусь выбирает езду на одном колесе, вместо того чтобы двигаться на двух колесах?»

*У посла Великобритании в Беларуси госпожи Розмари Томас закончился срок пребывания в нашей стране. Перед отъездом она ответила на вопросы "Народной Воли".*



**— Если кратко, то с какими чувствами вы, госпожа Посол, покидаете Беларусь?**

— Со смешанными чувствами. Конечно, будет грустно: я буду скучать и по людям, и по местам, ставшим за эти годы близкими, по запахам, по ароматам Беларуси... Но я счастлива, что возвращаюсь, — я не была дома в общей сложности 7 лет. Я счастлива, что буду жить со своей семьей, в своем доме. Конечно, время, проведенное в Беларуси, было ценным для меня, я не хотела бы прожить его по-другому. Но все-таки хорошо вернуться в родной Лондон, в очень динамичную, творческую обстановку, которой он славится. Вы знаете, там испытываешь ошеломляющее чувство креативности! Так что — время возвращаться.

**— Вы взяли такую искреннюю, душевную ноту, что мне жаль переводить разговор в другой регистр. И тем не менее: что вызывало наибольшее недоумение во время вашей работы послом в Беларуси?**

— Недоумение вызывают несколько вещей. Я не могу понять, почему Беларусь максимально не использует возможности, которые ей предоставляет ее географическое положение. Она окружена странами, которые хотят быть ее друзьями, которые хотели бы выстроить сильные политические и экономические связи. Я убеждена, что наилучшим образом Беларусь реализует свой, без сомнения, серьезный потенциал именно в том случае, если она выстроит хорошие отношения как с Россией, так и с Евросоюзом. Когда не будет ситуации "или — или". Зачем выбирать моноцикл, если можно ездить на велосипеде? Езду на одном колесе, вместо того чтобы двигаться на двух колесах? Особенно когда дорога довольно трудная...

**— Видимо, это от возраста. Мы молодая республика.**

— Да, молодое государство, я понимаю это. Но меня озадачивает то, что даже когда Евросоюз пытается ответить на запросы, которые поступают от обычных белорусов — они хотят путешествовать в Европу на тех же условиях, что и граждане Украины, граждане России, и Евросоюз предлагает начать дискуссию, обсуждение вопроса, — то и на это предложение от Беларуси не было получено никакого ответа.

**— Но президент Лукашенко сказал, что на данном этапе шаг навстречу он уже сделал: двое политзаключенных вышли на свободу. "Мяч на их стороне, это мое твердое убеждение", — сказал Лукашенко.**

— Мое глубокое искреннее желание, чтобы наконец появился способ каким-то образом продвинуться в налаживании отношений между Евросоюзом и Беларусью. Евросоюз абсолютно ясно объявил свою четкую и последовательную позицию в том, какие необходимо предпринять шаги, чтобы удалить все препятствия, мешающие развитию этого диалога. И наша позиция не изменилась. Мы не считаем, что мяч сейчас на нашей стороне.

**— Есть мнение, что жесткие экономические санкции, которые Запад проводит по отношению к нашей стране, болезненны и для ваших бизнесменов. А вы как считаете?**

— Хотелось бы сделать ремарку: экономические санкции крайне ограничены — никогда не было намерения проводить их широкомасштабно по отношению к Беларуси. Великобритания является довольно крупным импортером белорусских продуктов (правда, наша страна уже не входит в десятку главных торговых партнеров Беларуси). Хотя в Великобританию в денежном выражении экспортируется довольно много белорусской продукции, эта ситуация не оказала серьезного влияния на британский бизнес. Соседние страны, которые также являются членами ЕЭС, затронуты экономическими санкциями. И конечно, это не очень хорошее развитие событий. Но это уже вопрос солидарности: как между странами Евросоюза, так и солидарности с гражданами Беларуси. Но, как я уже сказала, мои мысли нацелены на тот день в будущем, когда все вопросы, из-за которых возникла ситуация с санкциями, будут разрешены и мы сможем вернуться к диалогу о взаимном сотрудничестве. Мы многое могли бы сделать вместе — Европа сильна, когда она едина.

**— В совместном заявлении президентов России и Беларуси, прозвучавшем относительно недавно, говорится, что Минск и Москва намерены теперь совместно бороться с попытками вмешательства во внутренние дела стран ЕЭП. То есть Москва берет Минск под защиту — это озвучил и министр иностранных дел России Лавров. Какие у вас будут комментарии?**

— Конечно, мне как Послу в Минске было бы неуместно комментировать внешнюю политику России. Хотелось бы просто отметить, что страны — члены ОБСЕ правам человека придают большое внимание. Например, Великобритания долгое время подвергалась критике со стороны Швеции по вопросу прав ребенка (речь идет о практике телесных наказаний в государственных школах, в результате закон об их запрещении вступил в силу в Великобритании в 1987 году. — **Прим. ред**.). Может быть, нам не всегда это нравилось, но было абсолютно закономерно. В 70-х мы проиграли дело в Европейском суде по правам человека по иску, который выдвинула Ирландия против Великобритании. И, конечно, тогда это вызывало сложности, потому что главный вопрос этого иска был вопрос о пытках. Но мы последовали рекомендациям суда, изменили ситуацию, мы согласились с тем, что Ирландия имеет полное право привлекать внимание к тому, какие процедуры существуют в Великобритании. Это нормальный здоровый процесс, и в целом он именно таким признается в Великобритании. Вопрос прав человека — это общечеловеческий вопрос, и совершенно естественно, что он вызывает такое внимание на европейском континенте. В этом свете мы бы очень хотели, чтобы Беларусь стала наконец членом Совета Европы. Это был бы важный вклад в проект, итогом которого станет свободная и единая Европа.

**— Где, кроме Минска, вы побывали в Беларуси? Какие привезли впечатления?**

— Я побывала в старых городах — Гродно, Бресте, Витебске, а также в маленьких промышленных... Ездила в заповедники — в Березинский и в Беловежскую пущу. В места религиозного поклонения — в Будслав, в восстановленные замки — в Несвиж, например, а также туда, где замки еще ждут своего восстановления. Как вы можете себе представить, мои впечатления были очень насыщенными и разнообразными. Я хорошо провела там время. Но если говорить о самом-самом, то это просто путешествие на природу в то время года, когда на поля прилетают аисты. К сожалению, у нас в стране аистов нет.

**— Попутный вопрос: вас не шокировала наша деревня? Наши села выглядят, наверное, довольно отсталыми с точки зрения европейца?**

— Нет! Хотя система сельского хозяйства у нас другая, на совершенно иной стадии развития. Но, как вы сказали, страна Беларусь — молодая. А ваши деревни остались у меня в памяти старомодным, но милым образом: нет ощущения заброшенности, все ухожено, видно заботливое присутствие человека. В этом, кстати, они очень похожи на английские деревни.

**— Какие культурные мероприятия в Минске вам запомнились за 3 года?**

— Концерты в филармонии, а также музыкальный фестиваль Юрия Башмета. Но вообще мне больше нравятся визуальные искусства — выставки картин. Признаться, у вас очень хорошая коллекция в Национальном художественном музее, и новые экспозиции там появляются часто. Я также любила посещать галерею "Ў", другие маленькие галереи. Мы с мужем даже купили несколько образцов современного искусства Беларуси и будем беречь их с гордостью.

**— Вы посещали такую, на мой взгляд, "белорусскую экзотику", как военно-исторический музей "Линия Сталина"?**

— Я там побывала один раз, и за то посещение, мне кажется, поняла, в чем ее историческое значение. Других впечатлений она у меня не оставила. Другое дело, Курган Славы — там я испытала сильное чувство.

**— Госпожа Посол, вы смотрите сейчас футбол? Вы болеете, следите за матчами-битвами европейского первенства?**

— В основном я слежу за футбольными событиями в интернете. Очень увлекательно! Но так как Англия не попала в четвертьфинал, то свою поддержку я отдала Португалии. Не только потому, что Португалия — наш самый давний политический партнер, союзник, но и потому, что команда замечательно играет. А вообще, главное, что это грандиозное спортивное событие происходит внутри нашей европейской семьи. На матчах в основном прекрасная позитивная атмосфера, жаль только, что ни одна из стран — хозяек чемпионата не попала ни в четверть, ни в полуфинал.

**— Какие напутствия, пожелания вы оставите своему преемнику на посту посла?**

— Я не хотела бы давать какие-то конкретные рекомендации — важно, чтобы у него сложилось свое собственное впечатление, без чьего-либо влияния извне. Я лишь порекомендовала довольно серьезный список книг по истории. В любой стране послу важно знать ее историю, но для Беларуси это имеет особый смысл. Государство молодое, но история у него долгая, сложная и противоречивая.

**— И еще один вопрос. У нас есть такое выражение "уйти по-английски" — то есть не прощаясь (мне кажется, у нас многие вообще любят английский стиль). А вот сами англичане употребляют такое выражение?**

— У нас такого выражения нет. Но вообще это удивительно, что в русском языке есть такая фраза, потому что она довольно точно описывает характер моих соотечественников, которые не любят привлекать к себе лишнего внимания и вообще создавать эмоциональную атмосферу (но это не касается футбольных матчей, естественно!). Кстати, в испанском языке, например, тоже есть выражение, характерное для менталитета англичан. Испанцы говорят: "По английскому времени". Это значит ни минутой раньше, ни двумя минутами позже, а точно в назначенный срок. И правда, мы любим точность!

**— И последний — сугубо дамский — вопрос. У вас есть красивая шляпа?**

— На самом деле у меня их несколько. И одну из них, увы, я оставляю в Беларуси... Последний раз я надевала шляпу на приеме в саду Букингемского дворца — там это обязательная часть костюма.

**— Я вам завидую.**

— Но к этому привыкаешь. Когда мы ежегодно проводили прием по случаю дня рождения королевы, у нас здесь, в Минске, всегда возникал вопрос, надо ли писать, чтобы люди приходили в шляпах. Но потом поняли, что это требование для белорусского уха будет странновато.

**— Спасибо за интервью, госпожа Посол.**

— І вам вялікі дзякуй!

**Елена МОЛОЧКО.**

СКАНДАЛ

## Намеснік міністра фінансаў РФ: рост экспарту раствральнікаў з Беларусі насцярожвае

*Расійскія высокапастаўленыя чыноўнікі зноў заявілі, што Беларусь "хімічыць" з нафтапрадуктамі, з-за чаго Расія можа губляць мільярды долараў.*

На гэты раз занепакоенасць тым, што Беларусь пад выглядам арганічных растваральнікаў экспартуе нафтапрадукты, выказаў намеснік міністра фінансаў Расіі **Сяргей Шаталаў** на падатковай канферэнцыі, арганізаванай Асацыяцыяй еўрапейскага бізнесу.

*"Мы сутыкнуліся з тым, што з Беларусі ў некалькі разоў вырас экспарт на знешні рынак арганічных растваральнікаў. Мы асцерагаемся, што гэты тавар — прыкрыццё, не выключана, што пад выглядам растваральнікаў экспартуюцца нафтапрадукты"*, — цытуе Шаталава "Інтэрфакс-Захад".

Намеснік міністра адзначыў, што Расія спрабуе прыняць меры ў сувязі з гэтай сітуацыяй.

Як вядома, крыху раней амбасадар Расіі ў Беларусі **Аляксандр Сурыкаў** заяўляў, што РФ занепакоена тым, што Беларусь экспартуе нафтапрадуктаў больш, чым іх можна выпрацаваць з пастаўляемай нафты. Асаблівую ўвагу расійскага боку прыцягнулі такія пазіцыі, як "растваральнікі" і "разбавіцелі", якія не абкладаюцца пошлінамі. У адпаведнасці з беларуска-расійскім пагадненнем, Беларусь атрымлівае расійскую нафту бяспошлінна, але пералічвае ў бюджэт РФ пошліны, атрыманыя ад экспарту нафтапрадуктаў.

У сваю чаргу кіраўнік Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі **Аляксандр Шпілеўскі** сцвярджаў, што ўсе пастаўкі нафтапрадуктаў праходзяць у адпаведнасці з дзеючымі пагадненнямі, ніякіх незаконных паставак не існуе і быць не можа.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Збітага Моўчана будуць судзіць

*Судовую справу збітага міліцыянерамі актывіста "Еўрапейскай Беларусі" Андрэя Моўчана будуць разглядаць у судзе Першамайскага раёна Мінска 4 ліпеня.*

Як паведаміў сам Моўчан, суд прызначаны на 15.30. Судзіць яго будуць за несанкцыянаванае пікетаванне.

Нагадаем, што 19 мая актывіст разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг каля ўніверсама "Першамайскі" ў Мінску ў знак салідарнасці з палітвязнем Сяргеем Каваленкам. Міліцыянты затрымалі Моўчана і жорстка збілі. Паводле папярэдняй высновы ўрачоў, ён атрымаў чэрапна-мазгавую траўму, пераломм ніжняй сківіцы і рэбраў. Ён быў шпіталізаваны ў Бальніцу хуткай дапамогі Мінска. Аднак, калі 25 мая Моўчана выпісалі з клінікі, у эпікрызе была пазначана толькі лёгкая чэрапна-мазгавая траўма. Пералом сківіцы, а таксама іншыя траўмы сталі пад пытаннем.

ВЫБАРЫ-2012

# Хто ёсць хто?

*Ісці на выбары ці не ісці? Байкот ці ўдзел? Агульнай стратэгіі ў апазіцыі няма.*

## Аптымізм Аксаны Закрэўскай

*Удзельнічаць у выбарах і прайсці марафон да канца вырашылі партыя "Справядлівы свет", а таксама незарэгістраваная грамадзянская кампанія "Гавары праўду!" і не маючыя афіцыйнага статусу сацыял-дэмакраты з "Грамады", як і некаторыя іншыя структуры.*



Кіраўнік офіса аказання прававой дапамогі насельніцтву **Аксана Закрэўская** з Магілёва пойдзе на выбары пры падтрымцы кампаніі "Гавары праўду!". Яна сыходзіць з таго, што шанцы стаць дэпутатамі ў незалежных кандыдатаў усё ж такі ёсць.

*— Паколькі мы прадстаўляем інтарэсы грамадзян, то не маем права не пайсці на выбары. Як будзе арганізавана галасаванне, гэта ўжо іншая справа. Мы пойдзем па кватэрах, будзем збіраць подпісы. Падчас сустрэч з людзьмі ўздымем пытанне, каб выбарныя органы не прызначаліся, а выбіраліся. Многіх выбаршчыкаў хвалюе такая праблема, як кампенсацыя дзяржавай страчаных укладаў.*

— **Вы лічыце, што на гэты раз галасы будуць лічыць аб'ектыўна?**

— Я так не думаю. Але мы яшчэ не ведаем, якія кандыдаты будуць ісці ад улады.

**— Ёсць спадзяванні, што станеце дэпутатам?**

— Пакуль не магу сказаць, бо наша праграма яшчэ дапрацоўваецца. Выберуць не выберуць, але працаваць мы будзем усё роўна...

— **А папярэднія выбары ўрокам не з'яўляюцца?**

— Ну, ёсць, канешне, розныя механізмы для фальсіфікацый, у тым ліку датэрміновае галасаванне. Вось мы і будзем агітаваць, каб людзі не хадзілі на датэрміновае галасаванне. Будзем казаць нашым актывістам, каб ішлі на выбары назіральнікамі. Нешта ж рабіць трэба...

**Аляксандра ЧАФОНТАВА.**

## Калі ты імітатар выбараў, то з'яўляешся хаўруснікам Лукашэнкі

*Кандыдаты Аб'яднанай грамадзянскай партыі, а таксама Партыі БНФ абяцаюць правесці кампанію як інфармацыйную, выкарыстоўваючы ўсе яе магчымасці, а потым зняць свае кандыдатуры.*

Адным з такіх кандыдатаў у Мінску будзе вядомы палітолаг **Уладзімір Падгол**. Ён будзе ўдзельнічаць у выбарах як кандыдат ад Партыі БНФ, але абяцае зняць сваю кандыдатуру, як толькі пачнецца папярэдняе галасаванне.

Уладзімір Падгол патлумачыў сваю пазіцыю наступным чынам:

*— Гэтыя выбары для апазіцыі павінны стаць першым этапам прэзідэнцкіх выбараў. Калі гэта сапраўдная апазіцыя, то яе прадстаўнікі мусяць быць не фармальнымі, а сапраўднымі апанентамі Аляксандра Лукашэнкі. Яны мусяць распавядаць, што трэба вярнуць частку аддадзенага суверэнітэту. Мы ж цэлы блок суверэнітэту страцілі ў еўразійскай палітыцы. Таксама гэта тычыцца і страты часткі вайсковага суверэнітэту пры ўступленні ў АДКБ. Утвораная супрацьпаветраная абарона Расіі і Беларусі азначае, што беларускае неба належыць Расіі. Над нашымі галовамі могуць лятаць расійскія самалёты з ядзернымі боегалоўкамі. Мы павінны тлумачыць людзям, што нам трэба выйсці з саюза Беларусі і Расіі, бо ён пагражае беларускаму суверэнітэту. Мы павінны выйсці з Мытнага саюза. Мы павінны адмяніць мыту на аўтамабілі на ўсе 100%. Сёння тыя ж Нарышкін і Мацвіенка прыязджаюць у Мінск і пераконваюць, што мусіць быць утвораны парламент Еўразійскага саюза. Але яго ўтварэнне парушыць нейтральны статус Беларусі.*

*Калі кандыдат будзе ставіць гэтыя пытанні, то ён сапраўдны прадстаўнік апазіцыі. Калі не, то ён не апазіцыянер, а імітатар, адным словам, хаўруснік Лукашэнкі. Тыя, хто супраць таго, каб ісці на выбары, на мой погляд, проста імітуюць байкот. Сёння для аб'яднання апазіцыі ёсць ідэалагічны чыннік — агульная платформа "Наш дом — Беларусь". Ёсць і арганізацыйны чыннік — падчас гэтых выбараў трэба вылучаць дэлегатаў на з'езд "За незалежнасць". А ў дзень выбараў 23 верасня трэба гэты з'езд правесці. І яшчэ трэба правесці шырокамаштабную акцыю — агульнанацыянальную беларускамоўную дыктоўку.*

— **Калі вы дойдзеце да фінішу, то сапраўды здымеце сваю кандыдатуру? Ці ёсць упэўненасць, што іншыя кандыдаты ад Партыі БНФ зробяць тое ж самае?**

*— Я здыму абавязкова. А ці зробяць гэта іншыя, мяне не цікавіць.*

**Даратэя СОЛТАН.**

## Байкот — і толькі!

*Вядомы рэжысёр, былы кіраўнік беларускага ліцэя, старшыня нефармальнага клуба інтэлектуалаў "Рады інтэлігенцыі" **Уладзімір Колас** раней удзельнічаў у выбарах і па ўскосных звестках нават перамагаў кандыдата ўлады ("Народная Воля" ў свой час пра гэта шмат і падрабязна пісала). Але сёлета Уладзімір Колас катэгарычна адмовіўся ад ідэі ўдзельнічаць у выбарах.*

*— Гэта не выбары, а імітацыя,* — гаворыць ён. — *І супрацьстаяць гэтаму можна толькі скансалідаваўшы намаганні. Інакш гэта ўдзел у імітацыі дэмакратыі, далейшая дыскрэдытацыя апазіцыі, страта рэйтынгу, пазіцый, аўтарытэту нашым дэмакратычным актывам. Я лічу, што трэба засяроджваць свае намаганні на спробах усё ж такі дамагчыся кансалідацыі. Любое рашэнне, якое прымаецца асобнай партыяй (ці некалькімі партыямі) — слушнае яно ці няслушнае, — яно слабое. Толькі агульна прынятае адказнае рашэнне, агульны зварот да грамадства можа даць плён. Людзі ж чакаюць. А калі адны кажуць "байкот", а другія — "удзел", то гэта нейкая бязглуздзіца. Безумоўна, я асабіста не пайду на гэтыя выбары. Але я разумею, што ідэя байкоту таксама ператвараецца ва ўтопію менавіта таму, што не дасягнута згода ў гэтым пытанні. Па віне людзей, якія гэтым займаюцца... І ўсім зразумела, чаму яны гэта робяць.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПИКИРОВКА

*Сергей КАЛЯКИН:*

## «Лидия Ермошина пусть отправляется на пенсию и рассуждает о чем угодно...»

*Не так давно председатель Центризбиркома Лидия Ермошина заявила, что стареет вместе с белорусской оппозицией. И что в политические партии, по ее мнению, должны прийти молодые и инициативные люди. А те, кто сегодня находится в верхушке оппозиции, уже ни на что не способны...*

*"Старею не только я — со мной стареет и вся оппозиция", — цитата чиновницы о возрасте разлетелась почти по всем сайтам.*



Права ли Лидия Ермошина?

Эту тему "Народная Воля" обсудила с Сергеем Калякиным, который рулит партией уже почти 18 лет.

— А Ермошина про Лукашенко такое говорила? — *сразу переспросил Сергей Иванович.*

**— Нет, она говорила именно про оппозиционные партии.**

— А какое она имеет отношение к политическим партиям? Пускай про Лукашенко говорит! Вообще, высказывания Ермошиной, касающиеся раскладов политических сил, каких-то симпатий, не допустимы в принципе! Ее после такого нужно сразу выгонять с работы.

**— Хотите сказать, что Лидия Ермошина не имеет права даже на мнение?**

— Как должностное лицо Ермошина не имеет права высказывать свои симпатии и антипатии, а она это делает довольно часто. Это, извините, не ее дело, стареют партии или нет. Пускай отправляется на пенсию и там рассуждает о чем угодно, в том числе и об оппозиционных политиках. Председатель Центризбиркома должен быть политически абсолютно не ангажирован. Потому что если глава ЦИК одному симпатизирует, а другого критикует, сразу возникают вопросы о достоверности итогов выборов, которые она подводит.

**— Сергей Иванович, а у вас были мысли уступить свое кресло кому-нибудь другому?**

— Были, и не раз. Но моя должность — выборная, когда люди посчитают, что я исчерпал свой ресурс, они проголосуют против меня. А вот так все просто бросить и сказать *"Я ухожу"* — это даже неприлично.

**— Простите, конечно, но примерно такими же словами оправдывает свое многолетнее нахождение у власти и действующий глава государства...**

— Лукашенко имеет систему принуждения и воздействия, у него мощный административный ресурс, а в оппозиции этого нет. Мы не платим зарплату тем людям, которые нас выбирают или фальсифицируют выборы. А он имеет репрессивный аппарат для удержания власти, он может бросить неугодных в тюрьму и при помощи силовиков удержаться в кресле. Поэтому сравнивать работу Лукашенко и оппозиционных партий — просто некорректно...

ЗВОНОК В ЦЕНТРИЗБИРКОМ

*Лидия ЕРМОШИНА:*

## «На правду нельзя обижаться!»

*"Народная Воля" попросила Лидию Ермошину прокомментировать пассаж Калякина по поводу ее ангажированности.*



"Я говорила не о симпатиях и антипатиях, а о фактах, и при этом не щадила ни себя, ни политиков, — *ответила Лидия Михайловна*. — Поэтому ни о какой ангажированности не может быть и речи. Я не критиковала взгляды, никого не хвалила. Я просто констатировала факт, который имеет место быть. Думаю, что господина Калякина это затронуло, как затрагивает всякая правда. А на правду нельзя обижаться.

Кстати, редко кто может сознаться в том, что его время уходит..."

**Марина КОКТЫШ.**



Председатель Госсовета, Совета Министров и Верховный главнокомандующий Вооруженными силами Кубы Рауль Кастро беседует с Николаем Лукашенко.



Президент Венесуэлы Уго Чавес приветствует Николая Лукашенко.

РЕБУС

## *Александр ЛУКАШЕНКО, президент Беларуси:*

*“Здесь находится мой сын Николай, и это говорит о том, что есть кому перенять эстафету лет через 20—25”.*

*(Во время визита в Венесуэлу.)*

## *Уго ЧАВЕС, президент Венесуэлы:*

*“Сегодня в Венесуэле торжественный день, поскольку мы принимаем Александра Лукашенко и его сына Николая”.*

БЫЛО...

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар газеты “Народная Воля”:**

— Калі можна, яшчэ адну кропку пастаўце, і мне здаецца, што мы гэтым самым здымем нават праблему Вашых апанентаў, якіх дастаткова і сярод нашых чытачоў. У народзе даўно пульсіруюць чуткі, што Вы рыхтуеце сабе пераемніка — старэйшага сына. Скажыце, гэтыя чуткі маюць пад сабой нейкую глебу? Ці наогул ніякай падставы для гэтага няма? Мы пра гэта напішам, і кропка будзе пастаўлена.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА:**

— Напишите, Иосиф Павлович, что в ближайшем обозримом будущем президентом Беларуси будет Александр Лукашенко. Я Вам клянусь судьбами моих же детей, о которых Вы говорите, что мы никогда эту проблему дома не обсуждали. Если бы даже я подумал обсуждать, то я все равно Виктора... Вы же о Викторе говорите, то он слабее сегодня и завтра еще будет слабее ныне действующего президента. Так зачем же слабейшего поддерживать и выдвигать?

Ну а если уже говорить о преемнике, то самого маленького буду готовить в преемники. Уникальный человек! Поэтому подождите. Может, мы не дождемся, но другие поколения белорусов дождутся. Вот я Вам сказал абсолютно честно.

*(Во время пресс-конференции для руководителей белорусских печатных и электронных СМИ в апреле 2007 года.)*



Во время торжественной церемонии в Каракасе.

УСПАМІНЫ

*Марыя КАВАЛЁВА*

# Жыццё — як адно імгненне




*(Працяг. Пачатак у №№99—100.)*

## Родныя людзі

Васіля Георгіевіча дэмабілізавалі ў 1944 годзе, пасля вызвалення Мінскай вобласці, і накіравалі на даваеннае месца працы — у знішчаны дашчэнту Бягомль. Паехаў туды пакуль што адзін, бо з сям’ёй не было дзе жыць.

Калі ў 1944 годзе Чырвоная Армія пайшла ў наступленне, вызваляючы Беларусь, Пеця знаходзіўся недалёка ад родных мясцін і вырашыў хоць на пару гадзін заехаць у Дубравіцу. Каля хаты Кавалёвых спынілася машына, з яе выйшаў афіцэр і накіраваўся ў двор. Матрона Іванаўна запытальна глядзела на яго, а Клава, пазнаўшы брата, усклікнула: “Мама, гэта ж наш Пеця!” Радасці не было канца. Аднак вайсковец не мог надоўга затрымацца з роднымі, як бы гэтага ні хацелася. Не паспелі нагаварыцца, а ўжо трэба спяшацца ў дарогу. Вайна яшчэ працягвалася, і ў маці была ўвесь час трывога за жыццё сваіх дзяцей, што на фронце.

Бягомль інтэнсіўна будаваўся. Ужо ўзнавілі будынкі райвыканкама і райкама, будаваліся жылыя дамы. Праўда, многія даваенныя дамы былі значна прыгажэйшыя, больш утульныя, але цяпер у дзяржавы была асноўная мэта — як найхутчэй будаваць, каб даць людзям жыллё. У 1947 годзе Васіль Георгіевіч перавёз сям’ю. Шматкватэрны дом на вуліцы Кірава быў яшчэ не закончаны, і сям’я жыла на прыватнай кватэры ў вёсцы Маргавіца, што побач з Бягомлем. Праз некалькі месяцаў Кавалёвы атрымалі пакой, а пазней і два ў кватэры на дзве сям’і. У 1949 годзе была пабудавана на ранейшым месцы гасцініца, і мы з Кавалёвымі зноў сталі суседзямі.

З вайны ўся сям’я Кавалёвых выйшла без страт: усе былі жывыя-здаровыя, а матэрыяльныя каштоўнасці тады нічога не значылі. Тут, лічу, варта сказаць некалькі слоў пра Мішавага брата і сясцёр.

Пеця да вайны закончыў механічны тэхнікум, а потым, папрацаваўшы нейкі час, — два курсы Мінскага педінстытута. Усе ваенныя гады — на фронце. Пасля дэмабілізацыі стаў жыць у Маскве, закончыў вячэрняе аддзяленне педінстытута і шмат гадоў працаваў дырэктарам аўтатэхнікума. Быў жанаты, меў двух сыноў — Сашу і Мішу. Памёр у 1978 годзе.

Шура з 1939 года жыве ў Пецярбургу. Да вайны закончыла два курсы Ленінградскага тэкстыльнага інстытута, які ў вайну эвакуіравалі ў Ташкент. Некаторыя студэнты, у тым ліку і Шура, не паехалі ў эвакуацыю. Жыла ў студэнцкім інтэрнаце, уладкавалася працаваць на тэлефонную станцыю тэкстыльнай фабрыкі. З лістапада пачаліся доўгія блакадныя дні, голад і холад. Ужо не было сілы дабірацца да інтэрната, які быў няблізка, і Шура стала жыць на фабрыцы. Зверху паступіла распараджэнне: з кожнага завода паслаць па 5—6 дзяўчат на працу ў вайсковую часць сувязі, каб вызваліць мужчын і адправіць іх на фронт. Дзяўчаты былі настолькі худыя, згаладнелыя, што камісія засумнявалася, ці змогуць яны працаваць. Прынялі. Шура працавала радысткай пры штабе фронту, гэта яе і выратавала ад галоднай смерці. Інстытут з Ташкента яшчэ не вярнуўся, і яна ў 1945 годзе стала студэнткай трэцяга курса політэхнічнага інстытута, закончыўшы які засталася працаваць у Ленінградзе. Выйшла замуж. Яе муж, Віктар Іванавіч Блахін, быў вельмі добры чалавек, яны з Мішам сябравалі. Віктар Іванавіч працаваў загадчыкам кафедры Ленінградскага інстытута культуры імя Крупскай. Цяпер Шура, яе дзве дачкі Ірына і Вольга, унукі і праўнукі жывуць у Пецярбургу.

Клава, малодшая сястра, закончыла Бягомльскую сярэднюю школу, затым філфак Мінскага педінстытута. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў Бягомлі, Калінінградзе, потым завучам у Жодзінскім політэхнікуме. Яе муж, Сямён Апанасавіч Жачкін, працаваў начальнікам цэха на БелАЗе. У іх два сыны — Васіль і Павел, унукі. Жыве ў Жодзіне.

Кожнае лета, пачынаючы з пяцідзясятых гадоў, Шура з сям’ёй, мы з Мішам і дзецьмі, Клава, часам і Пеця прыязджалі ў Бягомль, дзе ўсім нам добра адпачывалася, дружна і весела жылося. Так было, пакуль не стала бацькоў: жыццёвы шлях Матроны Іванаўны закончыўся ў 1976 годзе, а Васіль Георгіевіч перажыў яе амаль на 2 гады.

## Наша вучоба

За гады акупацыі ў нас, моладзі, галовы так “праветрыліся”, што, мабыць, тая частка мозгу, што прызначана для вучобы, стала зусім як “новая”. Пасля вызвалення ўзнікла неадольная цяга да вучобы. Вось гэтую асаблівасць моладзі, што перажыла вайну, удала падмеціў Іван Шамякін у рамане “Крыніцы”. У 1944 годзе ў Бягомлі, калі прыйшла Чырвоная Армія, былі толькі папялішчы, усё, нават вуліцы, зарасло высокай дзікай травой. Не было дзе размясціць раённыя ўстановы. Яны знаходзіліся ва ўцалелых дамах бліжэйшых ад Бягомля вёсак: Маргавіцы, Бабцах і Ваўчы. У Бабцах былі райсабес, райана і школа. З-за недахопу настаўнікаў і будынкаў адкрылі толькі сямігодку. Гэта была адзіная ў раёне школа, кожны клас якой займаў асобную хату. Не хапала падручнікаў, сшыткаў, чарніла. Па некаторых прадметах было толькі па 1—2 экзэмпляры кніг. Адзіны быў выхад: хтосьці чытае, а астатнія слухаюць і запамінаюць, калі ёсць на чым, што-небудзь запісваюць.

Я пайшла ў сёмы клас, прапусціўшы шосты (не адна я так рабіла), бо ўсё роўна нічога не памятала з таго, што некалі вучыла. Па суседстве кватаравала настаўніца матэматыкі, я прасіла ў яе на выхадныя падручнікі за папярэдні клас па алгебры і фізіцы і чытала. Добра, што “праветраная” галава хутка запаміна ла прачытанае, і я неўзабаве ўвайшла ў норму. Закончыла сёмы клас з пахвальнай граматай. Хацела вучыцца далей, але ў 1945 годзе цагляную школу не аднавілі, як абяцалі, а ад драўлянай засталося толькі папялішча. Я яшчэ спадзявалася, чакала, што адкрыюць хоць восьмы клас, і калі стала вядома, што гэтага не будзе, у канцы кастрычніка мы з мамай пайшлі пехатой у Глыбокае (гэта 60 кіламетраў ад Бягомля), дзе мяне прынялі ў педвучылішча.

На першым курсе жылося вельмі цяжка — галадна і халадна. Стыпендыя — 130 рублёў. За іх тады можна было купіць на базары невялічкі бохан хлеба. Бягомльшчына была спустошана вайной, і дапамогі нельга было чакаць ні ад каго. У пакоі нас было пяцёра, была грубка, але яе не было чым паліць. Разы два ці тры за ўсю зіму далі дроў. Вясной да мяне прычапілася нейкая хвароба, я не магла падняцца з пасцелі, сесці: страчвала прытомнасць. Завезлі ў бальніцу, і праз пару тыдняў я акрыяла.

У 1946 годзе з пачатку навучальнага года ў педвучылішчы з’явіўся новы дырэктар — Гарбукоў, дэмабілізаваны лётчык, выдатны педагог і клапатлівы кіраўнік. Ён навёў парадак ва ўсім, і жыццё стала значна весялейшае.

Пры заканчэнні педвучылішча ў 1948 годзе я і паэтка Еўдакія Лось склалі тыя пяць працэнтаў выдатнікаў, якім можна было адразу паступаць у інстытут. Як вядома, існаваў загад, паводле якога неабходна было адпрацаваць па накіраванні тры гады. Так я стала студэнткай Мінскага педінстытута. А ў 1950 годзе паступіла сюды і Клава, Мішава сястра. Жылі мы тады ў інтэрнаце на вуліцы Энгельса.

У Мішы магчымасць вучыцца з’явілася толькі пасля дэмабілізацыі, у 1948 годзе. Ён прыехаў у Мінск і стаў працаваць токарам на маторарамонтным заводзе. Жыў у прахадной з вартаўніком. Закончыў вячэрнюю школу і ў 1949 годзе паступіў у Ленінградскі горны інстытут на шахтабудаўнічы факультэт. У гэтыя гады вучыцца было трохі лягчэй, чым адразу пасля вызвалення: не было ўжо картачнай сістэмы, сёе-тое пачало з’яўляцца на прылаўках магазінаў — краіна з кожным годам мацней станавілася на ногі, жыццё паступова наладжвалася.

Міша не вучыўся сем гадоў, “згаладаўся” па сур’ёзнай вучобе. “Праветраная” і здольная галава паспяхова ўсмоктвала розныя навукі. З курса на курс ішоў у кагорце лепшых студэнтаў. Любіў спорт, у інстытуце атрымаў разрады па лыжах і плаванні.

У інтэрнацкім Мішавым пакоі на Васільеўскім востраве (Малы праспект, 40) жыло пяць студэнтаў. Жылі дружна, кожны год гэтым самым складам займалі пакой. На стыпендыю, зразумела, нельга было пражыць, таму было галаднавата, а часам і галадна. Тады хлопцы ішлі на таварную станцыю разгружаць вагоны або ў порце папрацаваць. Мішу ж трэба было не толькі пракарміцца, але і апрануцца-абуцца хоць па самым мінімуме. Выручала прафесія токара. Шмат часу ад вучобы ён не мог адарваць і на адным заводзе дамовіўся на пагадзінную працу. Токар ён быў добры, і завадчане заўсёды прымалі яго ўмовы.

Зімой у інтэрнаце было вельмі холадна. Міша ўспамінаў такі выпадак. Колькі ні прасілі каменданта, каб прыняў адпаведныя меры, — усё безвынікова. Паскардзіліся ў прафкам і прыгразілі, што напішуць у газету. У выніку стварылі камісію, якая заходзіла ў кожны пакой. Зайшла і да іх. Холадна. Камендант спытаўся, дзе іхні тэрмометр, каб высветліць, колькі градусаў цяпла. Тэрмометра зусім не было, і камендант зрабіў выснову: “Дзе ж тут будзе цёпла, калі ў іх нават тэрмометра няма!” Хлопцы пасмяяліся, але пасля гэтай камісіі ў пакоях стала трохі цяплей.

У студзені 1951 года пасля здачы экзаменаў мы з Клавай дамовіліся ехаць разам на канікулы ў Бягомль. А тут нечакана прыехаў з Ленінграда Міша, якога я шмат гадоў не бачыла. Перада мной стаяў хлопец-сусед — узмужнелы, прыгожы, у форме горнага інстытута, якая яму вельмі пасавала. Ён быў ужо на другім курсе. З ім прыехалі бягомльскія хлопцы-студэнты, і мы паехалі ўсе разам. Старэнькі аўтобус быў бітком набіты людзьмі, мы сядзелі ў канцы, дзе надта трэсла, і мяне стала загойдваць. Пра тое, каб спыніць аўтобус і выйсці на свежае паветра, не магло быць і гаворкі.

Назаўтра Міша прыйшоў праведаць мяне і прапанаваў пакатацца на лыжах. Надвор’е было цудоўнае, такое ж спрыяла нам усе канікулы.

*(Працяг на 6-й стар.)*



З будаўнікамі ў Салігорску.

ГЛАЗАМИ ОЧЕВИДЦА

# В каких условиях трудятся белорусы в Венесуэле

*За последние три года сотрудничества наших стран более тысячи белорусов побывало в Венесуэле в командировках различной продолжительности.*

## Автобусы МАЗ по прозвищу «Барби»



Специалисты по ремонту и техническому обслуживанию белорусской техники в Венесуэле комфортный Каракас видели лишь из окна автобуса. Их рабочие места находились (и до сих пор находятся) в венесуэльской глубинке, в штатах Гуарико, Баркесимето, Арагуа, Миранда, Карабобо и других. Это относится к представителям четырех наших автогигантов — МАЗа, БелАЗа, “Амкодора” и МЗКТ.

Чтобы читатель представил, в каких условиях трудятся наши земляки, заглянем в Чаральяве.

Городишко Чаральяве в штате Миранда цивилизован только в части современного гигантского железнодорожного вокзала. На ремонтные мастерские для городского автопарка у властей денег не хватило... Автобусное кладбище в Чаральяве даст фору любому немецкому шроту. Каких только аварийных автобусов здесь не встретишь! “Вольво” и “форды”, “мерседесы” и “энкавы” венесуэльской сборки... К счастью, мазовских автобусов на кладбище пока нет.

Белорусы приехали в Чаральяве ремонтировать поставленные в Венесуэлу автобусы МАЗ-256. Под испепеляющим солнцем и при полном отсутствии сервисного центра.

СТО белорусам заменил машинный двор с одним сварочным аппаратом без электродов и одним верстаком без тисков. Лучше всего на машинном дворе была налажена мойка автобусов.

Любая, даже самая мелкая, поломка создавала большую проблему. Нехватка квалифицированных кадров, отсутствие запчастей... Поэтому на белорусов, экипированных комплектами накидных ключей, местный персонал смотрел, как на испанцев эпохи Колумба.

Днем автобусы максимально эксплуатировались на местных “революционных маршрутах”. Революционный характер состоял в дешевизне проезда и в красном цвете кузова.

Красный цвет, заказанный Чавесом во время его визита на МАЗ, на деле оказался розовым, поэтому венесуэльские остряки немедленно окрестили 856 наших машин ироничным именем “Барби”.

На ночь автобусы парковались в... поле, огражденном колючей проволокой. После дождя поле превращалось в “танкодром”, но белорусам не привыкать. Наши слесари находили пятачки сухой земли, куда загоняли технику на ремонт.

Там они отважно бросались под днище затягивать стремянки, устранять вибрацию передней оси и менять ремни генератора, которые в тропических условиях Венесуэлы рвались, точно бумажные.

Но больше всего проблем создавали немецкие кондиционеры турецкой сборки. Они просто плакали в буквальном и переносном смысле. Струи воды в салоне приводили пассажиров в гнев и восторг, они кричали водителю: “Пепе, передай шампунь и мочалку!”

Нещадная эксплуатация автомобильных кондиционеров в Венесуэле объясняется дешевизной бензина. Наполнение топливного бака обходится в пару долларов, поэтому водители не глушат мотор, даже когда уходят на обед.

А о том, что фильтры в кондиционерах следует менять или хотя бы чистить, венесуэльцы узнали от белорусов. Начальник ОТК Дмитрий Гуринович рассказал им о бесплатном “народном средстве”. В итоге 55-летний завгар Карлос Ромеро забрал фильтрующий элемент домой, и там его 24-летняя молодая жена постирала фильтр, как обычное белье. Больше претензий на протекание воды в салон не было.

Самим же белорусам не то что о кондиционерах — даже об умывальнике в таких условиях мечтать не приходилось. Все, что могли, обустроили собственными силами. Купили пластиковые бачки, в военной части по соседству заполнили их водой и... умывальник готов!

Не обошлось и без “кидалова” по-креольски. Не вдаваясь в подробности, скажу, что “бесплатные” ужины в гостинице оказались платными. Добрая половина командировочных “баксов” ушла у белорусов на погашение задолженности. После этого мазовцы стали и бдительнее, и... стройнее. Питались скромно, но расход калорий не снизили — работали, как стахановцы.

Говорят, что лишения сближают. Это правда. Белорусы из Минска подружились с венесуэльцами из Чаральяве, мы их угощали ивенецкими конфетами, они нас — свежемолотым кофе. Освоившись, белорусы даже поплавали в их бесплатном муниципальном бассейне. Он оказался через стенку от машинного двора. Жаль, узнали об этом поздно — за пару дней до возвращения в Беларусь.

*(Окончание на 6-й стр.)*

КОРОТКО

## Исламист позовет в правительство христиан и женщин

Новый президент Египта Мухаммед Мурси встретился с лидерами коптской христианской общины страны. Он заявил, что намерен привлечь к участию в своем правительстве христиан и женщин. Новый президент впервые в истории страны намерен сделать одним из своих советников христианина — представителя Коптской церкви. Он демонстрирует намерение сформировать широкую правящую коалицию “народного единства”.

## США, Япония и ЕС жалуются на Китай

Они обратились во Всемирную торговую организацию, чтобы разрешить спор с Китаем, который ограничил экспорт редкоземельных минералов, используемых при создании высокотехнологичных изделий, таких как сотовые телефоны и аккумуляторы для гибридных автомобилей.

Торговый представитель США Рон Кирк заявил, что для американских рабочих и промышленников жизненно важно получить справедливый и равный доступ к этому сырью, тем более что Китай, вступая в ВТО, особо обещал предоставлять его.

Китай контролирует более 90% мирового рынка редкоземельных минералов. США, ЕС и Япония утверждают, что, вводя ограничения на экспорт, Пекин пытается помочь китайским компаниям нерыночными методами.

## Историческое рукопожатие

Британская королева Елизавета II впервые протянула руку дружбы бывшему командиру Ирландской республиканской армии Мартину Макгиннессу. Это рукопожатие в Белфасте наблюдатели назвали историческим и “важным символическим жестом” в рамках процесса мирного урегулирования в Северной Ирландии.

По данным экспертов, Мартин Макгиннес возглавлял штаб ИРА, когда в 1979 году боевики этой группировки убили двоюродного брата Елизаветы II лорда Луиса Маунтбаттена. В 2005 году ИРА отказалась от вооруженной борьбы за независимость Ольстера от Великобритании.

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.

УСПАМІНЫ

Марыя КАВАЛЁВА

# Жыццё — як адно імгненне

(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)

Я, Міша і Клава штодзень каталіся на лыжах з самай высокай гары ў наваколлі. І пачалося... Мы з Мішам цэлымі днямі і вечарамі былі разам, не маглі нагаварыцца, нацешыцца прысутнасцю адзін аднаго. Нам, юнаку і дзяўчыне, спакутаваным вайной і пасляваеннымі нягодамі, лёс падараваў каханне, шчырае, чыстае, светлае. Гэта былі самыя шчаслівыя канікулы ў свеце, канікулы-казка, мара, песня...

Неўзабаве нашы шчаслівыя канікулы закончыліся, трэба было ехаць на вучобу. Я на аўтобусе павінна ехаць у Мінск, а Міша назаўтра — у Ленінград з Барысава (так было бліжэй і білет таннейшы). Міша праводзіў мяне да аўтобуса, мы доўга не маглі развітацца. І вось машына ад'язджае...

Усю дарогу я маўчала, штосьці незразумелае шчымела ў грудзях... Такога са мной ніколі не было.... Побач сядзела гаваркая жанчына, пачала штосьці мне расказваць, але я нічога не чула, няўцямна глянула на яе, і тая пераключылася з размовамі на іншых.

Назаўтра, калі я прыйшла з інстытута ў інтэрнат, дзяўчаты (а нас у пакоі жыло 35 чалавек ды яшчэ некалькі "зайцоў") наперабой сталі гаварыць, што мяне шукаў малады прыгожы хлопец у форменнай фуражцы, прыйдзе ў пяць гадзін вечара. Я думала, што тут хтосьці памыліўся, бо да мяне ніхто не павінен быў прыйсці. Якое ж маё было нечаканае здзіўленне і радасць, калі ў прызначаны час убачыла Мішу! Аказваецца, ён сабраўся ехаць у Барысаў, але тут жа даведаўся, што ў Мінск ідзе грузавая машына. У кабіне месца было занята, і ён вырашыў ехаць у кузаве. Гэта быў Учынак! Ён пяшчотным камячком прытуліўся ў маім сэрцы. Міша пераначаваў у сваіх школьных сяброў Галі і Колі Міхайлавых, а назаўтра раніцай паехаў у Ленінград.

А далей — пісьмы, сустрэчы на канікулах, якіх вельмі чакалі.

У 1952 годзе я закончыла інстытут (тады навучанне было чатыры гады), і мяне пакінулі працаваць на кафедры беларускай мовы. Міша працягваў вучыцца. У студзені 1953 года ён, студэнт чацвёртага курса, датэрмінова здаў экзамены, каб наша чарговая сустрэча была даўжэйшай. У гэты час мы і пажаніліся. Пры пасляваенным сціплым жыцці мы, безумоўна, не маглі справіць вяселля, але ўвечары рэгістрацыю шлюбу адзначылі ў невялікай кампаніі блізкіх людзей: Мішава сястра Клава, яго школьныя сябры Коля і Галя Міхайлавы, Лена і Андрэй Макаёнкі, мае аднакурсніцы Зіна Шкурынская і Ліда Валчэцкая, Марыя і Валодзя Казберукі, Валодзева маці, у якой я кватаравала. Назаўтра паехалі ў Бягомль і там адзначылі гэту падзею з роднымі, блізкімі.

Чарговая наша сустрэча павінна была адбыцца на летніх канікулах. Аднойчы ў пачатку сакавіка адчыняюцца дзверы ў маім пакоі, і я бачу Мішу. Гэты незапланаваны, неспадзяваны прыезд звязаны з жалобнымі днямі смерці Сталіна. У Ленінградзе некаторыя людзі, у асноўным студэнты, кінуліся на вакзал, каб паехаць у Маскву на пахаванне. Міша ж вырашыў ехаць не ў Маскву, а ў Мінск. Памятаю: мы ідзём па Газетным завулку радасныя, жартуем, смяёмся і не заўважаем косых позіркаў людзей. Нейкі немалады ўжо мужчына спыніў нас і злосна стаў папракаць такім настроем. Мы стараліся ісці далей больш стрымана. У тыя дні людзі, у тым ліку і мы, сапраўды шчыра перажывалі смерць правадыра. У Мінску стыхійна ўтварылася вялікая чарга да помніка Сталіну на Цэнтральнай плошчы. Многія неслі кветкі, вазоны (была якраз адліга) і клалі да помніка. Прайшлі ў гэтай чарзе і мы.

У 1954 годзе быў апошні семестр Мішавага пяцігадовага навучання. У гэты час ужо няма заняткаў, студэнты пішуць і абараняюць дыпломныя працы. Міша ледзь не суткамі працаваў і закончыў дыпломную задоўга да тэрміну. Сэканомлены час выкарыстаў, прыехаўшы да мяне, каб пабыць разам. Затым паехаў у Ленінград, выдатна абараніў дыпломную працу, аформіў адпаведныя паперы і прыехаў у Мінск.

Дарэчы, пры размеркаванні яму, як лепшаму студэнту, прапаноўвалі некалькі даволі грашавітых пасад у Данбасе, Сібіры, Варкуце, але ён выбраў Мінск.

## Праца і сям'я

У жыцці часам некаторыя жанчыны папракаюць мужа, што яму работа даражэй за сям'ю. Думаю, што ў любога нармальнага чалавека ўсё павінна быць на сваім месцы. Праца і сям'я — узаемазвязаныя паняцці. Каб існавала сям'я, павінна быць праца як крыніца існавання. Калі добрая сям'я, добры "тыл" у чалавека, то і працуецца паспяхова. Калі ж няма ладу ў сям'і, то гэта ўсё адмоўна адбіваецца ў рознай ступені на працы. Гэта аксіёма.

Мішу было ўсё дарагое: і работа, і сям'я. Я ў сваю чаргу старалася, каб у яго быў надзейны "тыл".

Пасля заканчэння інстытута ў 1954 годзе ён прыязджае па накіраванні ў Мінск. Пачынаў працу майстрам, прарабам, затым начальнікам будаўнічага ўпраўлення будтрэста №1. Сярод першых яго будоўляў — Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Быў прыгожы праект, аднак у гэты час пры Хрушчове пачалася жорсткая барацьба з "излишествами" ў архітэктуры і будаўніцтве, і праект абкарналі, спрасцілі. Міша вельмі перажываў з-за гэтага. Ён вучыўся ў Ленінградзе і быў выхаваны на архітэктурных шэдэўрах гэтага горада. Гаварыў: "Такія адзінкавыя грамадскія будынкі павінны мець свой адметны воблік, каб нашчадкі любаваліся і ганарыліся імі".

На будаўнічым рахунку Міхаіла Кавалёва ў Мінску таксама шматлікія жылыя дамы і заводы: гадзіннікавы, электрамеханічны, завод Леніна, электратэхнічны завод імя В.Казлова і іншыя.

Калі Міша прыехаў у Мінск, мы здымалі пакой на Паўночным завулку, потым атрымалі пакой у камуналцы на Лагойскім тракце (цяпер вул.Якуба Коласа). Тут улетку 1955 года нарадзіўся наш першынец Сярожа. Як Міша быў рады сыну! І так здарылася, што ў той час, калі я знаходзілася ў бальніцы, Мішу прыйшла павестка з ваенкамата з'явіцца на вайсковыя трохмесячны зборы, якія павінны праходзіць у Пскоўскай вобласці. Яму так хацелася ўбачыць сына, што вырашыў залезці па пажарнай лесвіцы на трэці паверх будынка бальніцы. Але на метрах трох яго спынілі. Убачыў сына, калі прыехаў са збораў.

Неўзабаве нам далі аднапакаёвую кватэру на вуліцы Чарнышэўскага, дзе ў нас у 1960 годзе нарадзіўся другі сын — Андрэйка. Калі ён нарадзіўся, у радзільным корпусе першай бальніцы 1 ці 2 лютага лопнулі ацяпляльныя трубы, і амаль суткі не было цяпла, а стаялі немалыя маразы. Большасць дзетак прастудзілася. Наш Андрэйка доўга хварэў. Я начамі не спала, не магла часам яго супакоіць, носячы на руках. Тады Міша падымаўся ноччу, браў у мяне сыночка і насіў па пакоі, спяваючы яму розныя песні, у тым ліку і рэвалюцыйныя. І цікава: пад мае калыханкі Андрэйка не хацеў засынаць, а найлепш засынаў пад песню "По долинам и по взгорьям...".

Наша аднапакаёўка была ўжо цесная на чацвярых. Акрамя таго, тут былі пэўныя нязручнасці: вокны выходзілі на поўнач, і сонца не заглядвала да нас; грубка была тонкая, хутка награвалася і хутка астывала. Мы дадаткова ўключалі электранагравальнік. Сынок бясконца хварэў, і нам далі трохпакаёвую "хрушчоўку" на 6-й лініі (цяпер вуліца Дарашэвіча). Сыночку было адзінаццаць месяцаў, ён пачаў хадзіць, а калі пераехалі ў новую кватэру, ён адчуў прастору і бегаў з пакоя ў пакой, радасна смеючыся ад задавальнення. Тут ён і перастаў хварэць.

Міша працаваў ужо начальнікам будаўнічага ўпраўлення, усё ў нас ішло добра. Але ў 1962 годзе яго накіроўваюць у Салігорск будаваць калійны камбінат і горад.

Мне стала значна цяжэй адной з малымі дзецьмі. У 1962 годзе Сярожка пайшоў у школу, а Андрэйку было толькі два гадочкі. Выручыла мая мама. Яна ў 1963 годзе пайшла на пенсію і прыехала з Бягомля да нас у Мінск. Значную частку бытавых клопатаў яна ўзяла на сябе. Мама самаахвярна, з любоўю адносілася да ўсіх сямейнікаў, і ўсе любілі і цанілі яе. Міша называў яе мамай. Яна пражыла з намі да канца свайго жыцця — да 2000 года.

У Салігорску Міша спачатку працаваў начальнікам будаўнічага ўпраўлення, а затым упраўляючым будтрэста №3. Да гэтага будтрэст узначальваў Леанід Сцяпанавіч Храмцоў, які вельмі добразычліва ставіўся да Мішы як да малодшага калегі.

Будаўніцтва горада і камбіната ішло поўным ходам. Усюды краны, экскаватары, катлаваны пад фундаменты, мора пяску... Міша, зразумела, паказаў мне і сваю галоўную будоўлю — камбінат. Я і ўявіць не магла такую грандыёзную панараму: куды ні глянь — усюды стаяць ужо гатовыя ці ўзводзяцца новыя, незвычайныя, нязвыклыя нашаму воку пабудовы, кожная з якіх мела сваю назву, але я іх не запомніла, толькі глядзела і здзіўлялася, як тут можна ва ўсім гэтым разабрацца і не памыліцца. Я шчыра пажадала Мішу і ўсім будаўнікам вялікай удачы на вялікай будоўлі.

Пры Міхаіле Кавалёве былі пабудаваны 1-ы і 2-і калійныя камбінаты, пачалі будаваць 3-і. Салігорскія будаўнікі працавалі ў тры змены, без выхадных. Міша нярэдка начаваў на будоўлі, каб пракантраляваць начную змену. Я часта прыязджала да яго на выхадныя, а на канікулах — разам з сынам Сярожам.

Калі Міша прыязджаў у Мінск (а гэта быў далёка не кожны выхадны дзень), заўсёды прывозіў мне кветкі, якія купляў у Слуцку або збіраў у полі. Аднойчы шафёр расказаў такі выпадак. У суботу, калі ехалі праз Слуцк, ішоў дождж, было ўжо позна, і кветак не змаглі купіць. Раптам убачылі статную, па-святочнаму апранутую жанчыну, якая несла цэлы ахапак кветак — многа разнастайных букетаў. Міхаіл Васільевіч падбег да яе і папрасіў прадаць які-небудзь з іх. Жанчына спыталася, каму кветкі, а пачуўшы, што жонцы, цёпла ўсміхнулася і выбрала адзін з лепшых. Грошай не ўзяла. Гэта была настаўніца, яна ішла з выпускнога вечара.

У 1966 годзе Міхаіл Кавалёў працуе намеснікам міністра будаўніцтва рэспублікі. Усё тут ішло спраўна, але на гэтай пасадзе ён не папрацаваў і поўных двух гадоў, як яму нечакана прапанавалі ўзначаліць Мінскі гарвыканкам. Ён на ўсіх узроўнях, дзе з ім вялі размову і ўзгаднялі назначэнне, катэгарычна адмаўляўся, бо зусім не ўяўляў гэтай работы... Міхаіл Кавалёў ніколі не шукаў высокіх пасад, а проста шчыра рабіў сваю любімую справу. Часта карыстаўся прыказкай "Рабі добра, і ўсё будзе добра". Пасады быццам самі з'яўляліся і ўзнімалі яго ўсё вышэй і вышэй. У сувязі з гэтым назначэннем мне ўспамінаецца такі выпадак.

22 лістапада 1967 года Міша ўсё ж такі паехаў у Маскву на зацвярджэнне яго старшынёй Мінскага гарвыканкама. Дадому павінен быў прыехаць 24-га. А 23 лістапада назначана абарона маёй кандыдацкай дысертацыі ў Акадэміі навук. Напярэдадні ў мяне паднялася высокая тэмпература, балела горла, знік голас. Я ўзмоцнена лячылася ўсімі сродкамі. Назаўтра, 23-га, голас прарэзаўся, і я, узрадаваная, паехала ў акадэмію на абарону, якая павінна была пачацца ў 14 гадзін. Пачалося пасяджэнне савета, і пасля фармальных працэдур, як звычайна, далі слова мне. Я сказала некалькі фраз і бачу: акуратна адчыняюцца другія, далейшыя, дзверы, і заходзяць Міша з Сярожкам. Неспадзяваны сюрпрыз! Міша, аказваецца, змог прыляцець самалётам. Вось так ён умеў здзівіць, уразіць мяне, быццам зваліўшыся з неба. Ведала, што ўсе прысутныя добразычліва адносяцца да мяне, але з'яўленне маіх дарагіх мужчын зрабіла атмасферу больш цёплай, я зусім перастала адчуваць хваробу і менш стала хваляваца.

(Працяг будзе.)

Будуецца метро. У цэнтры — Міхаіл Кавалёў і Рыгор Цішкевіч.





На шасцідзесяцігоддзе Міхаіла Васільевіча сабраліся ўсе родныя. Сядзяць: сястра Шура, жонка Марыя з унукам Мішкам, Міхаіл Васільевіч з унукам Юрам, сястра Клава, Феня Іванаўна (цешча). Стаяць: сын Андрэй з жонкай Таняй, Сямён Жачкін (швагер), сын Сяргей з жонкай Ленай. Сцяпанка. 1985 год.

ДЭБЮТ

## Беларускага танцоўшчыка Канстанціна Героніка адзначылі ў Кітаі

*Малады саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Канстанцін Геронік атрымаў першую прэмію IV Міжнароднага пекінскага балетнага конкурсу харэаграфічных школ.*



У міжнародным спаборніцтве прымалі ўдзел больш за 70 танцоўшчыкаў з розных краін.

Выступленне Канстанціна атрымала высокую ацэнку крытыкаў і міжнароднага журы, у склад якога ўваходзілі вядомыя артысты і пастаноўшчыкі.

Дарэчы, Канстанцін Геронік працуе ў трупе тэатра ўсяго два гады.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Калі адкрыецца Нясвіжскі замак?

***Пабывалі разам з мужам на арт-фестывалі ў Нясвіжскім замку, але шкада, што там працуюць не ўсе залы. Калі плануецца ўсе экспазіцыі зрабіць даступнымі для турыстаў? І яшчэ цікава, як набываюць рэчы, якія калісьці належалі Радзівілам — яны ж раскіданы па ўсім свеце!***

**Алена БЕЛЬСКАЯ, Мінск.**

Мяркуецца, што цалкам замак для турыстаў адкрыецца толькі восенню.

Што тычыцца радзівілаўскай маёмасці, то яе сапраўды шукаюць па ўсім свеце.

*"На жаль, рэчы, якія належаць радзівілаўскаму роду, рэдка з'яўляюцца на аўкцыёнах",* — распавядаў нядаўна журналістам дырэктар нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" **Сяргей Клімаў.** Паводле ягоных слоў, за апошнія тры гады на музеефікацыю Нясвіжскага замка было выдаткавана 1,5 мільёна долараў.

**Вера ВІР.**

ПА-ЗА СЦЭНАЙ

## Арганізатарам «Тэатральнага куфара 2012» мроіцца туалетная папера і вадкае мыла

*Дзеля дарагіх гасцей ІХ Сусветнага кангрэса Міжнароднай асацыяцыі ўніверсітэцкіх тэатраў беларусы гэтым разам гатовы на многае. І не дзіўна, бо некаторыя краіны аб'явілі байкот форуму толькі з-за таго, што ён мусіць прайсці у Беларусі.*

Плануецца, што на тыдзень у Мінск прыляцяць прадстаўнікі 35—37 краін. Сабрацца ў беларускай сталіцы прапанаваў прэзідэнт асацыяцыі студэнцкіх тэатраў канадзец **Жан Марк**. Ён сам неаднойчы прыязджаў да нас і моцна палюбіў Беларусь. Ніхто і падумаць не мог, што гэтая ідэя выкліча столькі праблем!

*"Гэта вялікая падзея для Беларусі, хоць байкот кангрэса аб'явілі многія краіны,* — распавёў сустаршыня аргкамітэта ІХ Сусветнага кангрэса Міжнароднай асацыяцыі ўніверсітэцкіх тэатраў **Уладзімір Макарэвіч**. — *З-за пэўных палітычных матываў ехаць у Мінск адмовіліся, напрыклад, англічане".*

Між тым падрыхтоўка ўжо амаль скончана. Уладзімір Маркевіч прызнаўся, што апошнім часам трымае ў галаве думкі пераважна аб колькасці патрэбнай туалетнай паперы і вадкага мыла. За творчы складнік не хвалюецца ні ён, ні іншыя арганізатары.

Для гледачоў галоўная падзея кангрэса — Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў "Тэатральны куфар" Белдзяржуніверсітэта. Форум спецыяльна перанеслі на пачатак лета, каб госці краіны змаглі наведаць 13 лепшых спектакляў у выкананні студэнцкіх калектываў з розных краін свету. Арганізатары раяць паглядзець усе спектаклі і абавязкова пазнаёміцца з працай беларускіх студэнтаў "Без назвы", якая створана на падставе архіўных дакументаў і ўспамінаў вязняў канцлагераў і гета. Гэты спецпраект пакажуць 3 ліпеня — у Дзень Незалежнасці Беларусі.

Білеты на ўсе спектаклі можна набыць у касах горада і на сайце tiketpro.by. Кошт аднаго квітка — 23 тысячы рублёў.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

## Эдуард Ханок надел чалму и бриллианты

*Известная российская фотохудожница **Екатерина Рождественская** устроила оригинальную фотосессию для композитора и автора теории творческой волны Эдуарда Ханка.*

*— Я снялся для популярного проекта Рождественской "Частная коллекция" в журнале "Караван историй",* — похвастался Эдуард Семенович "Народной Воле". — *Меня сняли в четырех образах. Вначале я был Архимедом — мне приклеили бороду, усы и дали циркуль в руки. Второй образ — визирь из "Волшебной лампы Аладдина". Был в чалме и бриллиантах. Третий образ — деспот Фома Фомич Опискин из "Села Степанчикова" Достоевского. И четвертый — интеллигент начала прошлого века во фраке, жилете и с тростью. Мне фотосессия очень понравилась.*

По словам Эдуарда Ханка, все образы выбирала и придумывала сама Рождественская.

**Марина КОКТЫШ.**

## На «Славянском базаре» устроят показ мод

*14—15 июля в Витебске впервые устроят выставку-продажу дизайнерской одежды, обуви и аксессуаров **Showroom BFW.***

"У посетителей мероприятия появится эксклюзивная возможность примерить и приобрести вещи дизайнеров, чьи изделия вряд ли можно найти в обычных белорусских магазинах одежды или на фэшн-маркетах", — рекламируют мероприятие организаторы.

Среди участников ярмарки мод заявлены такие известные отечественные бренды, как TARAKANOVA, Rada Style, Nastya Makkey, Davidova, Historia Naturalis, O.Jen, BOITSIK и другие.

На подиуме презентуют льняные коллекции от ведущих белорусских и российских дизайнеров: Historia Naturalis, Davidova, Nastya Makkey.

**Алина ВЕТРОВА.**

ГЛАЗАМИ ОЧЕВИДЦА

# В каких условиях трудятся белорусы в Венесуэле

(Окончание. Начало на 5-й стр.)



### Боевая операция на кирпичном заводе

Выдавая строительную каску, начальник службы безопасности посоветовал мне: "Не вздумай выходить за ограждение, недавно тут у нас война случилась".

За неделю до моего появления на строительном объекте пара бандитов-маландросов проникла на завод и ограбила венесуэльского рабочего.

Незамедлительно была вызвана местная полиция, та в свою очередь вызвала национальных гвардейцев. Над объектом завис военный вертолет, а стрельба в горах стояла такая, как во время битвы при Карабобо...

В остальном производственная жизнь наших строителей текла спокойно. По сравнению с условиями в Чаральяве условия на кирпичном заводе можно назвать курортными.

Вагончики-офисы оборудованы кондиционерами и туалетами, есть интернет и кухня с холодильником. Вершина комфорта — небольшая русская баня с печкой-каменкой и душем. Березовые и дубовые веники завозились из Беларуси, когда кто-то из сотрудников возвращался из отпуска.

Как известно, любую бочку меда можно испортить ложкой дегтя. В случае с заводом этой ложкой стала скотобойня по соседству. Она расположена где-то за холмом, ее даже не видно. Но когда оттуда дует ветер, волей-неволей становишься сторонником вегетарианства — смрад стоит, как около каракасского морга в Бельо Монте.

В начале строительства, в 2009 году, на заводе трудилось всего 10 белорусов. К завершению строительства, в 2011 году, их количество выросло в пять раз. Речь идет о сотрудниках на постоянной основе. Вместе с командированными на короткие сроки специалистами и венесуэльскими субподрядчиками трудовой коллектив состоял из нескольких сотен человек.

Мне посчастливилось проследить все этапы строительства завода.

Ноябрь 2009 года — пустырь. 2010 год — земляные работы по перемещению около миллиона кубометров грунта, установка вагончиков для ИТР и строительство административно-бытового комплекса, подпорной стены, весовой, бани...

2011 год: возведение ангаров, хранилища глины, бетонирование дорог и дорожек, поставка дорожно-строительной техники из Беларуси, строительство коллектора для дождевой воды, мастерских и складских помещений, поставка и монтаж технологического оборудования для производства 100 млн условного кирпича в год...

Во время последней "экскурсии" на завод, в апреле 2012 года, здесь уже велись пусконаладочные работы. Инженер-технолог Василь Хмелевский провел меня вдоль конвейера, рассказав о 10 технологических этапах производства: карьер — массоподготовка — подготовка глины в шихтозапаснике — формовка — резка — укладка на сушильные полки — сушка — выгрузка сушильных полок в печные вагонетки — обжиг — разгрузка печных вагонеток — пакетирование и упаковка.

Специалисты, которых запечатлел фотообъектив, люди скромные и удивятся, узнав, что журналист назвал их героями. Тем не менее это так. Думаю, даже президенты Чавес и Лукашенко с этим согласятся.

### Герои строительства в Маракае и Баринасе

Напомню, что в Маракае завершено строительство жилищного комплекса на 2520 квартир, а в Баринасе — введены в строй два завода: тракторостроительный и по сборке МАЗов.

В этих городах мне нечасто приходилось бывать, поэтому и фотографий — с гулькин клюв.

Наш строительный объект в Маракае в декабре прошлого года стал причиной скандала. Оппозиционный журналист Хосеп Полищук — с белорусскими корнями и хваткой пираньи — опубликовал в El Universal статью "Белорусская мафия". В статье, в частности, говорилось о краже с объекта двух тонн арматуры с целью перепродажи. Как результат, в Минске и Каракасе полетели головы. Руководство ЗАО "Белзарубежстрой" обратилось в Генпрокуратуру Венесуэлы за разъяснением и получило официальный ответ о непричастности белорусской стороны к хищению.

Но, пока это произошло, пострадали люди. И не одни топ-менеджеры. Многие из простых работников, кто уехал в Беларусь в очередной отпуск, не вернулись на рабочие места — произошло массовое сокращение кадров из-за замораживания работ на объектах, которые не вошли в мой репортаж.

Будем надеяться, что нынешний визит Александра Лукашенко в Каракас расставил точки над і.

Пару слов — об объектах в Баринасе. Заводы по сборке тракторов и грузовиков возведены в рекордно короткие сроки, сказался опыт на других объектах. Не сегодня-завтра здесь будет возведен третий завод — по сборке коммунальной техники "Амкодор".

**Андрей СМИРНОВ,**
*TUT.BY.*
**Фото автора.**

